БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

3 снежня 1994 г.
Субота
№ 130(13847)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года





Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Звольнены міністр гандлю

*Прэзідэнт рэспублікі А.Лукашэнка падпісаў указ аб вызваленні В.Байдака з пасады міністра гандлю ў сувязі з выкарыстаннем службовага становішча ў асабістых мэтах, якое выявілася ў незаконным атрыманні дзяржаўных кватэр.*

Камітэту па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і кіравання адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь даручана накіраваць генеральнаму пракурору В.Шаладонаву матэрыялы праверкі для адпаведнага рэагавання.

### Не дапусціць збяднення

*За ростам цэн неміпуча ўспыхнуць сацыяльныя канфлікты, лічыць Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі. На сваім пасяджэнні прэзідыум ФПБ прыняў заяву ў адрас прэзідэнта краіны. У ёй змяшчаецца заклік да кіраўніка дзяржавы "не дапусціць прыняцця рашэнняў, якія вядуць да збяднення працоўных".*

Прафсаюзы, занепакоеныя выказваннямі прэм'ер-міністра М.Чыгіра аб неабходнасці павышэння цэн на асноўныя віды хлеба, малако, тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі, настойваюць на адэкватных мерах абароны насельніцтва. На іх думку, трэба яшчэ да чарговага вітка павышэння цэн павялічыць зарплату, пенсіі, стыпендыі і дапамогі, а стаўку першага разраду ўстанавіць на ўзроўні мяжы малазабяспечанасці. ФПБ заяўляе таксама, што гатова з удзелам зацікаўленых бакоў распрацаваць механізм стрымлівання рознічных цэн і тарыфаў.

БЕЛІНФАРМ.

### СНІД не жартуе

*Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў распараджэнне аб выдзяленні ў 1994 годзе Рэспубліканскаму цэнтру па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам з рэспубліканскага бюджэту 200 мільёнаў рублёў для набыцця дыягнастычных і лекавых сродкаў.*

Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### Ёсць яшчэ чаму павучыцца

*У Лідзе пабывала дэлегацыя работнікаў культурна-асветных установаў з польскага горада-пабраціма Камаліна.*

Дэлегацыя пазнаёмілася з работай мясцовага цэнтра дзіцячай творчасці, а таксама гарадскога Палаца культуры, школ і карціннай галерэі.

Мар'ян ВЯНГРОУСКІ.

### Аварыя на прадуктаправодзе

*Аршанскі раён напаткала чарговае бедства. Не паспелі "загаіць раны", нанесеныя ўцечкай ядавітых рэчываў, якія трапілі ў сістэму водазабеспячэння пасёлка Арэхава, як падвёў прадуктаправод Унеча—Вентспілс.*

Адбыўся разрыў веткі. Дызельнае паліва ракой палілося на зямлю. Ста кубаметраў яго — як і не было.

### Звычайны... подзвіг

*Ні на мінуту не парушыўся графік руху паяздоў у раёне станцыі Барысаў, хоць прычына для гэтага была больш чым уважлівая. Раніцай 29 лістапада выпадкова ля самага чыгуначнага палатна былі знойдзены міны часоў Вялікай Айчыннай вайны.*

Група размініравання маёра Сяргея Баліцкага за некалькі гадзін перапалапаціла тоны грунту і выцягнула ў выніку 183 артылерыйскія снарады і міны рознага калібру. Сапёры працавалі так ювелірна і надзейна, што чыгуначнікам не прыйшлося ўносіць непажаданыя карэктывы ў расклад руху паяздоў, які на гэтым участку вельмі інтэнсіўны.

БЕЛІНФАРМ.

### Дэлегаты ад рэспублікі дзяцінства

*На гэтым тыдні Рэспубліканскі палац дзяцей і моладзі прыняў 173 дэлегатаў — прадстаўнікоў другога пасяджэння Беларускага дзіцячага парламента са 129 раёнаў Беларусі.*

Адно з галоўных пытанняў, вынесеных на парадак дня — абарона правоў дзіцяці.

Дэлегаты гаварылі аб розным. Пра цяжкае становішча ў медыцыне, экалогію, праблемы вольнага часу, працаўладкаванне пасля школы, пра рэлігію. Для дапамогі ў вырашэнні гэтых і іншых пытанняў быў абраны першы прэзідэнт Дзіцячага парламента рэспублікі Юрась Радзько.

Прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, запэўніў прысутных, што іх пытанні і прапановы дойдуць да Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Алена ХАДАРОНАК.

### Беларускі аўтобус уласнымі сіламі

*На Асіповіцкім заводзе аўтаагрэгатаў наладжана вытворчасць дэталяў для беларускіх аўтобусаў, выпускаць якія пачаў Мінскі аўтазавод.*

Мясцовыя аўтаагрэгатчыкі "запусцілі" ўжо больш як 40 найменняў камплектуючых.

Іван СЦЯПУРА.

### Прадаецца... Дом культуры

*У Докшыцкім раёне прадаецца Дом культуры, праўда, былы. Да вайны тут быў склад, акупанты зрабілі ў ім канюшню, а пасля вайны яго прыстасавалі пад... Дом культуры. Меркавалі пабудаваць новы культурны цэнтр, але заміж яго пабудавалі райком партыі, які, зрэшты, пасля дзевяноста першага года і стаў новым раённым культурным цэнтрам. А стары цяпер ніхто не купляе.*

Дарэчы, у Докшыцкім раёне прадаецца яшчэ і сельская бібліятэка ў вёсцы Чачукі... Што на чарзе?

### "Хуткая дапамога" для злачынцы

*Прафесія вадзіцеля "хуткай дапамогі" становіцца небяспечнай. Ля машыны, якая прыехала па выкліку ў вёску Горкі Лепельскага раёна, нечакана з'явіўся малады чалавек са зброяй у руках. Пагражаючы вадзіцелю, ён завалодаў машынай і спрабаваў уцячы, ды, бяда, забыўся выключыць рацыю.*

Сігнал паступіў у міліцыю, і неўзабаве начная група захопу затрымала злачынцу. Ім аказаўся жыхар Рэспублікі Комі. А пісталет у яго быў... цацачны.

Уладзімір МІХНО.

### Курсы валют на 2 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8010 | 8250 | 5126 | 5333 |
| "Дукат" | 8000 | 8250 | 5050 | 5250 |
| "Прыор" | 8050 | 8400 | 5160 | 5390 |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Восень патрыярхаў

☐ Якаў ЯСЭПКІН,"ЧЗ"

*Трэці дзень зімы. "Завеі, снежань". У гісторыю адышла апошняя дэпутацкая восень. Беларускі "патрыярхальны" парламент павольна ўвайшоў у зімовую чорна-мармуровую пару. Развітальныя тэлекадры, аналітычныя калонкі ў СМІ. Між тым, у калоннай велічы Авальнай залы парламенцкі рабочы тыдзень разбіла папалам лінія падзелу лістапада і снежня.*

Нельга сказаць, што нацыяльная парламенцкая асамблея правяла чарговыя чатыры дні пленарных пасяджэнняў у спакойны час. У інфармацыйных блоках мільгацелі вогненныя назвы гарачых кропак. Біхач, Грозны, нават у першапрастольнай прадпрымаліся павышаныя меры бяспекі: чачэнскі газават, уяўны або магчымы. Аднак пакінем сусветныя праблемы тамтэйшым летапісцам. На Беларусі, дзякуй Богу, чуваць толькі водгукі грамадзянскіх выбухаў-пажараў. Хаця і ў іх былі пачуты "турэцкі марш" (на лаўры Джэймса Бонда прэтэндавалі, як паведамлялася, не толькі два аташэ пасольства Турцыі ў рэспубліцы) і перасцярогі генеральскай шасцёркі: П.Казлоўскі, М.Чуркін, В.Дзямідзік, А.Сікора, А.Зуеў і В.Вакар звярнуліся да кіраўніка дзяржавы з адкрытым лістом. Эканамічны крызіс і ўладныя метамарфозы можна лічыць асноўнымі адметамі нашых дзён. Прычым калізіі развіваюцца ўвогуле ў цывілізаваным рэчышчы, тры галіны ўлады функцыянуюць, калі не ў поўнай згодзе, дык паралельна і ў рамках існуючага заканадаўства. Безумоўна, прэзідэнт і выканаўчыя структуры прыцягваюць галоўную ўвагу не адных электронных і "папяровых" сродкаў масавай інфармацыі, а і грамадства. Менавіта ад Аляксандра Лукашэнкі чакаюць, у першую чаргу, эканамічных цудаў. Пакуль чакаюць (зразумела, значна меншая частка ягонага нядаўняга электарату), бо стаміліся чакаць ад іншых. Тое, што мясцовыя рэформы, як і пры Кебічу, у "расійскім грыме", у разлік наўрад ці бярэцца. Прэзідэнт пасля выступлення на сесіі агульнага сходу Акадэміі навук Беларусі пераключыўся на больш прыземленыя задачы. Трымаючы слова, прагучаўшае пад час сустрэчы з прафсаюзным актывам рэспублікі (аб тым, што выканаўчая вертыкаль улады будзе створана за два тыдні), ён выехаў у народ, дакладней, у абласныя цэнтры, дзе і прапанаваў кандыдатуры на пасады старшынь аблвыканкамаў. Яны прызначаны ў Віцебску, Магілёве, Гомелі. Пакуль Аляксандр Рыгоравіч выступаў у ролі архітэктара прэзідэнцкай вертыкалі, парламент перайшоў снежанскі рубікон. Сёння — кароткія хронікі трох (восеньскага і двух зімовых) дзён ВС. Але перад тым скажам літаральна некалькі слоў пра парламенцкую восень.

Гэта сапраўды восень патрыярхаў (без аналогіі з Маркесам). Асабліва з улікам ювенільнага ўзросту новай выканаўчай улады. Вярхоўны Савет "нарадзіў" прэзідэнта і шэрагі новапрызначаных чыноўнікаў, сёння ў ім засядаюць некалькі экс-правіцеляў вышэйшага рангу, дэпутацкі корпус перажыў разбурэнне імперыі, толькі беларускія парламентарыі (апошнімі!) могуць з гонарам успамінаць, што абраная яшчэ ў СССР пэўная частка іх, безумоўна, увойдзе ў новы склад дэпутацкай асамблеі. Апроч таго, непасрэдная заканатворчасць. Згадаем толькі пра сёлетні "восеньскі марафон": дзесяткі і дзесяткі разгледжаных пытанняў, законапраектаў і законаў, ухвала антыкрызіснай праграмы і рэформы мясцовай улады (з наступным вядомым зваротам 82-х у КС), урэшце прыняты законапраект аб выбарах. Аб апошнім таксама два словы. Мажарытарны прынцып, пакладзены ў аснову, стварае аднолькавыя магчымасці для прэтэндэнтаў на чырвоныя парламенцкія крэслы ў акругах. Касметычная рэстаўрацыя ранейшага закона ў стылі рэтрамаскоўскага мадэрна колькі гадовай даўнасці паставіла крыж на надзеях "партыйцаў". Страсці, па ўсёй верагоднасці, адкіпелі, хаця парламенцкая асамблея зойме вялізную нішу ў структуры дзяржаўнай улады і займее ў наступным годзе легітымнасць не меншую за прэзідэнцкую. Не сакрэт, як стане будавацца выбарчая тактыка. На крытыцызме. Сёння з парламентам, абраным у СССР, пры неабходнасці можна размаўляць даволі сурова. Пасля выбараў — не. Наадварот, будучыя парламентарыі, загартаваўшыся ў змаганнях з канкурэнтамі, увойдуць у Авальную залу, маючы на руках мандаты з нявысахлай на іх тушшу народнага роспісу ў даверы. Пытанне ў тым, наколькі масавай паўстане ў новым парламенце апазіцыйная плынь. І тут цяжка прагназіраваць, як адаб'ецца на "масоўцы" прыняцце мажарытарнай сістэмы. Прыклад Еўропы, тым больш Масквы, стаяў перад вачыма нашых палітыкаў. Нацыянальныя лідэры з маланкавай хуткасцю рабілі і робяць кар'еры. Ельцын распачаў з прымітыўнай крытыкі Гарбачова, за ім прыйшлі шэрагі, іх не пералічыць. У беларускіх палітычных люстэрках дублююцца сны і ява Масквы. Копіі не тых памераў, але і арыгіналы здрабніліся. Цяпер (пасля подпісу прэзідэнта) выбарчы закон "адкарэкціруе" і тактыку, і стратэгію. Усё ж захаванне мажарытарнай сістэмы — дарагое здавальненне не толькі для партый, а і для асоб. Уласна кажучы, ім прыйдзецца падымацца на грамадска-публічны подыум і дэманстраваць сябе. Сціплае абаянне Асобы становіцца неабходным фактарам поспеху. Далей — хроніка.

Апошні дзень восені. Старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык прадставіў законапраект "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь". Нагадаем: пытанне было ўключана ў парадак работы сесіі, калі не "праходзіла" прапанова З.Пазьняка аб унясенні на разгляд дэпутатаў законапраекта аб прэзідэнце. Тады М.Грыб праявіў рэжысёрскія здольнасці (хасбулатаўскія ўрокі), і абодва пытанні ўвайшлі ў спіс разглядаемых. Законы сапраўды важныя, іншая справа — іх якасныя параметры, магчымае тлумачэнне. Зразумела, калі яны перамесцяцца з музейнай прасторы парламента ў рэчаіснасць. Згодна з прынятымі нормамі, новы ВС будзе ажыццяўляць сваю дзейнасць, у дакуменце акрэслены парадак разгляду і прыняцця законапраектаў, сфера кампетэнцыі і кантрольныя паўнамоцтвы парламента, правы і абавязкі дэпутатаў. Прайшла дыскусія, поўнай згоды не атрымалася. Д.Булахаў

*(Заканчэнне на 2-й стар.).*



## "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### ЗША З ІНІЦЫЯТЫВАЙ МІРАТВОРЦА

*ЗША выступілі з ініцыятывай правядзення міжнароднай канферэнцыі па ўрэгуляванню ў Босніі.*

Гэта прапанова будзе абмяркоўвацца на пасяджэнні кантактнай групы, у якую ўваходзяць ЗША, Расія, Вялікабрытанія, Францыя і Германія.

### КАРАЛЕЎСТВА ВЫБРАЛА КАМУНІЗМ

*Кароль Непала прызначыў 72-гадовага лідэра камуністаў Ман Мохана Адхікары новым прэм'ер-міністрам краіны.*

Як вядома, камуністычная партыя Непала (аб'яднаная марксісцкая і ленінская) упершыню атрымала перамогу на нядаўніх датэрміновых выбарах у краіне. Цяпер ёй даручана сфарміраваць Кабінет міністраў каралеўства.

### САМАВЫЗНАЧЭННЮ НЕ БУДЗЕ ПЕРАШКОД

*У Эфіопіі адбылося пасяджэнне канстытуцыйнай асамблеі.*

Яе ўдзельнікі адобрылі артыкул новай Канстытуцыі, якая гарантуе народам Эфіопіі права на самавызначэнне, аж да стварэння незалежных дзяржаў.

### НОВАЙ УЛАДЗЕ НЕ РАДЫ

*У Мексіцы сфарміраваны новы Кабінет міністраў.*

У яго ўвайшлі 25 чалавек — 22 мужчыны і 3 жанчыны. Тым часам больш як 500 мексіканцаў выказалі пратэст супраць абнаўлення ва ўрадзе.

### УЦЕКІ ЗНЯВОЛЕНЫХ

*У Венесуэле больш як 100 зняволеных уцяклі з турмы.*

Ім удалося пракапаць падземны ход ад турэмных камер да гарадской каналізацыі. Паліцыя затрымала каля 40 чалавек.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

